# НІВА

Год выдання V
№ 39 (239)
25 ВЕРАСНЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА


Міхась ВАСІЛЁК



Сціхлі птушкі, і сівая
Ходзіць восень борам, гаем,
Днём і ноччу залацістым
Усцілае сцежкі лістам.
Звісшы нізка над ракою,
Шэпча лознік з асакою.
Зніклі краскі, сумна, глуха,
Непагода — завіруха.
Прытулілася да тына
Адзінокая рабіна.
Шкода сонечнага лета...
Апусцеў, заціх палетак.
У далёкі край за мора
Журавы плывуць над борам,
Над рачным блакітам дальнім
З сумным крыкам развітальным...

# ЦЯГНІК САРДЭЧНЫХ СУСТРЭЧ

Цягнікі бываюць розныя: пасажырскія, таварныя... У нашай памяці дагэтуль яшчэ застаюцца жывымі і такія цягнікі, якія ў змрочныя асеннія ночы вязлі на ўсходні фронт узброеныя да зубоў гітлераўскія полчышчы.

І вось у адрозненні ад гэтых апошніх, і дзеля таго, каб не было больш ніколі цягнікоў, якія сеюць смерць, з варшаўскага вакзала адпраўляўся на ўсход з усім вядомай эмблемай — белым голубам на паравозе — «Цягнік міру і дружбы». Гэты першы таго роду «Цягнік», арганізаваны Агульнапольскім камітэтам міру, накіроўваўся ў тры сталіцы Савецкага Саюза — Мінск, Маскву і Кіеў. Вёз ён 316 асоб, сторонікаў міру, прадстаўнікоў амаль усіх існуючых у Польшчы арганізацый, творчых аб'яднанняў і таварыстваў.

Надзвычай гасцінна прыняла прадстаўнікоў Польшчы беларуская зямля. Ужо на граніцы з перона Брэсцкага вакзала даносіліся прывітальныя мелодыі духавога аркестра. Не гледзячы на плачлівае надвор'е — вясёлы настрой. Абшырная вакзальная зала ўвассала нас у сваё нутро. Неўзабаве цяжка было разабрацца, хто з Польшчы, а хто з мясцовых брэсцкіх жыхароў. І невядома адкуль узялася гармошка. Румяная, маладая дзяўчына націснула на басы. Паліліся мелодыі танцавальнай музыкі. Неўзабаве ўсе тут з прысутных былі ўжо знаёмыя, госці пачуліся як у сябе дома. Хутка мінулі дзве гадзіны і многія пары, якія толькі што пазнаёміліся, з глыбокім уздохам і смуткам у вачах развітваліся на пероне. Ці сустрэнемся ізноў, — думалі яны ў тую хвіліну. Прыязджайце да нас часцей, — нesліся словы нам уздагонкі. Ля адкрытага акна вагона малады ўдзельнік нашай экскурсіі прыціскаў да сэрца букет кветак, які атрымаў ад прыгожай брэсцкай дзяўчыны.

Доўгае падарожжа ў Мінск усіх нас, з'ехаўшыхся з цэлай Польшчы, пазнаёміла з сабою, параднілa. Вось і сталіца Савецкай Беларусі — Мінск. Вітала яна нас сваёй маладосцю і прыгажосцю. Нам і сонца вынырнула з-за тонкіх хмараў і ўсміхалася да нас ласкавым вокам. Я з'яўляўся тым шчаслівцам, якому ўжо давялося пабываць у Мінску раней. Сэрца затрэпяталася моцна. Цісніліся думкі аб знаёмых, з якімі так хацелася ўбачыцца. Вітаючыя нас прадстаўнікі грамадскасці Мінска ўручаюць букеты кветак.

На вакзальнай плошчы чакаюць на нас аўтобусы з праваднікамі. Доўгім шнурочкам цягнуцца яны ў горад, з якім прагна ўсе хочуць пазнаёміцца. Экскурсаводы знаёмяць з гісторыяй горада, які ў 85 прац. быў разбураны гітлераўскімі акупантамі, які залечыў ужо свае ваенныя раны і з'яўляецца прыгожым, новым, сучасным горадам, з кожным днём змяняючым сваё аблічча. Чым далей у глыбіню горада накіроўваюцца нашыя аўтобусы, тым больш ва ўсіх нас расце захапленне. Па дарозе са скверыка вітае нас бронзавы Янка Купала. Затрымоўваемся на плошчы перад палацам Прафсаюзаў. Гурмам бягуць да нас хлапчукі ў чырвоных гальштуках і дзяўчаткі ў белых фартушках. Просяць на памяць польскую манету. Усе яны ўжо ў святочным выглядзе. Перад пачаткам школьнага года вось тут, на кірмашы, абменьваюцца кніжкамі і купляюць неабходныя школьныя прылады.

У палацы Прафсаюзаў намечаны мітынг — сустрэча ўдзельнікаў «Цягніка міру і дружбы» з мінчанамі. Прыгожая зала Прафсаюзаў запаўняецца да апошняга месца. Мітынг адкрывае Іван Казлоў — старшыня Таварыства Дружбы і Культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

(Працяг на стар. 3)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## У СПАБОРНІЦТВЕ З ДАЖДЖОМ

Мінулае лета было вельмі непрыхільнае да сялян. Кожная гадзіна добрага надвор'я ацэньвалася на вагу золата, на тоны хлеба.

Гутарым з Аляксандрам Вішнеўскім — аграномам і адначасова бухгалтарам сельгаскааператыва ў Дарожках (Беластоцкі павет).

**— Ці шмат перашкодзіў Вам безупынны дождж пры ўборцы ў гэтым годзе?**

— Не менш, чым іншым гаспадарам. На гэтае няшчасце, на жаль, няма пакуль-што ніякага спосабу нават у супольным гаспадараванні. Вада заліла сенажаць, дождж паламаў збожжа так, што нават касой цяжка было да яго дабрацца, не гаворачы ўжо аб жняярках, а тым больш — аб камбайне.

**— Зы ўспамінаеце аб камбайне. Адкуль ён у вас?**

— Збожжавы камбайн падарылі нам калгаснікі Гродзеншчыны.

**— Камбайн на палях Беласточчыны, як дагэтуль — рэдкасць. Шырока ў нас распаўсюджаны меркаванні, што камбайн у нашых умовах непрыгодны да эфектыўнага карыстання. У Вас ужо ёсць нейкі вопыт. Калі ласка, раскажыце нам.**

— Гэткія меркаванні зусім беспадстаўныя. Мы карыстаемся камбайнам ужо не першы год. На падставе асабістага вопыту магу сказаць: гэта цудоўная машына. На нашых палях вытрымаў ён экзамен на выдатна. Камбайн дае магчымасць за адну гадзіну сабраць і ачысціць збожжа з трох гектараў паверхні. Гледзячы з блізка за працай камбайна на спулдзельчым полі, нашы суседзі — аднаасобнікі з Дарожак і навакольных вёсак поўнасцю пераканаліся ў яго бясспрэчнай вартасці і з кожным годам усё больш атрым-

(Працяг на стар. 5)

## ЗА ТЫДЗЕНЬ

**9 ГОД АДЦЯТЫ АД БЕЛАГА СВЕТУ!**

Герaічны подзвіг рускага салдата. Барацьба на жыццё і смерць у засыпаных падземеллях Брэсцкай крэпасці.

Аб гэтым раскажа нам у наступным нумары С. СМІРНОЎ, савецкі пісьменнік, які збірае матэрыялы да гісторыі Брэсцкай крэпасці.

Чытайце яго надзвычай цікавае апавяданне п. з. **«НЯЗМЕННЫ ВАРТАВЫ»**



Польскія настаўнікі на праспекце імя Сталіна ў Мінску.

 

# ШКОЛЬНЫ ПРАГРЭС

На кожным кроку сустракаемся з дасягненнямі навукі і тэхнікі. На палях паўзуць сельгасмашыны, у хатах электралямпачкі, швейныя машыны, мясарубкі і іншыя выдумкі ў кожнай гаспадыні пад рукою. Усюды тэхніка ўзяла верх, толькі ў школе пастарому вучаць дзяцей.

Неабходна навучанне ў школе дапасаваць да духу сучаснасці. Давайце разгледзім, чытачы, як увесці дасягненні дваццатага стагоддзя ў школьную праграму.

На першы агонь возьмем матэматыку, навуку сціслую, якая часта сядзіць у пячонцы, а не ў галаве вучня. Навошта на ўроках матэматыкі мучыць дзяцей лічбамі, калі маем лічыльныя машыны? Вучань ставіць на парту лічыльную машыну, слухае настаўніка, кнопачкі націскае, машына трахціць, «чык-тыр, чык-тыр», і выскакваюць гатовыя лічбы.

Або возьмем урок геаграфіі. Вучань перад картай пацее. Настаўнік прымушае дзіцё падарожнічаць па карце і палачкай паказваць, дзе даліны ляжаць, дзе горы расцягнуліся і куды рэкі плывуць. Ці не лепш паехаць з вучнямі ў Татры, паказаць горныя вяршыні; або накіравацца да вытокаў Віслы, паказаць Баранью гару і месца, дзе Чорная і Белая Вісалка зліваюцца ў Віслу. Напэўна такі ўрок геаграфіі спадабаецца вучням лепш за геаграфічную карту.

І фізіка павінна быць больш сучаснай. Механіку пара выкінуць з фізікі. Ніхто дагэтуль не выдумаў вечнага рухавіка, хоць кожны з нас праходзіў механіку.

Іншаземныя мовы могуць у школе застацца, цяпер вынайдзена машыну, якая перакладае 40 слоў у мінуту. Хай сабе настаўнік французскай ці англійскай мовай рэжа, перад вучнямі машынкі пішуць пераклад на беларускай мове.

Родную мову ў школе пакінем. Гімнастыку таксама пакінем без змены, вучні любяць рух; ды і мы ведаем, што ў здаровым целе — здаровы дух.

Як бачыце, мілыя чытачы, прапанаванае наватарства дасць вынікі ў навучанні, якія будуць ісці нага ў нагу з сучасным прагрэсам.

Хай пада мною зямля праваліцца, людзі добрыя, калі вучні з радасцю не сустрэнуць новую педагагічную праграму.

*Дзядзька Лявон*



НОВЫ ВАРЫЯНТ АБАГОНЫ.

Перамога па колькасці ўдараў.



— Мы не хочам, каб гэты рэкорд быў для яго апошнім!..

Амерыканскія ваенныя манаполіі прызначаюць агромныя капіталы на адбудаванне ваеннай прамысловасці Заходняй Германіі. (з газет)



МАНАПАЛІСТЫЧНАЯ КАРМІЦЕЛЬКА




# ПРЫЕМНАГА АПЕТЫТУ

Мо' калі прыйдзецца вам, даражэнькія, пабываць у Мілейчыцах, якія знаходзяцца ў Сямяціцкім павеце. Нават прыгожы гэта гарадок...

Але што там аб прыгожасці, калі есці хочацца. Есці? Калі ласка! У Мілейчыцах ёсць «сталовая», ёсць і «мясная».

Аднак раней паслухайце.

Вось нядаўна зайшоў я да свайго суседа, Ігната, а ён ляжыць на ложку, стогне, аж сцены дрыжаць, ды велізарны камень на жываце трымае.

Што з табою, Ігнат? — усхвалявана запытаў я суседа.

— Бяда, Якуб, няшчасце... — праз стогн адказвае сусед. — Бачыш, рабочы час, пад'есці мацней трэба, ну і купіў я крыху «дзяржаўнай» каўбасы, з'еў ды ў жываце так пачало рэзаць, што знахарку, Аксеню, мусіў паклікаць, каб лячыла хутчэй. А яна пашаптала поўгадзіны над грамніцай, паплюла тры разы праз левае плячо і казала вось гэты камень двухпудовы трымаць на жываце, каб цесна было гэтай чорнай сіле, што хваробу прыносіць. Як ужо, — кажа, — вельмі намучыцца пад каменем, то, мабыць, сама выйдзе! А ўсяму каўбаса вінавата.

— Ты, Ігнат, упэўнены, што гэта каўбаса? — недаверліва запытаў я.

— Пэўна, што так. То ж не што іншае, а кілаграм каўбасы за 50 злотых купіў я ў мілейчыцкай «мясной».

Не паверыў я суседу. Афармляючы адну справу ў мілейчыцкім гэзэсе, зайшоў я і да «мясной». Згодна з маею просьбай, кінуў прадаўшчык на вагу два кольца каўбасы, а яна быццам камень у ваду, з гэткім плюскам упала на вагавую талерку. Пацікавіла гэта мяне. Гляджу, а ў вагавой талерцы поўна вады.

— Што вы! — звярнуўся я да прадаўшчыка, — я ж вады не прасіў. Толькі каўбасу хачу купіць!

— А ваду дзе падзену, калі яна з каўбасы л'еццa? — адказаў прадаўшчык. — Мо' сабе астаўлю, каб «манка» было, што? Прадаю так, як мне даюць!

Што ж было рабіць? Прадаўшчык жа не вінаваты. Аднак апетыт на каўбасу прапаў у мяне, быццам рукою адняло.

«Браць, ці не браць» — стаю і думаю.

— Бяры, брат! — як бы адгадваючы мае хваляванне, адазваўся нейкі мужчына, які стаяў за мною ў чарзе. — Гэта новы, спецыяльны, мілейчыцкі сорт каўбасы, асабліва прыдатны на гарачыя дні. Вады з сабой у поле насіць не трэба. Маеш яе, брат, разам з каўбасою. Падумай, якая выгода!

Разумна чалавек гаварыў, няма што, пераканаў мяне, і я ўзяў каўбасу. Ну і даведаўся, што Ігнат праўду гаварыў — ужо на другі дзень апынуўся я ў шпіталі, бо нашая знахарка, Аксеня, наеўшыся каўбасы, сама захварэла. Там сусед па няшчасцю, нейкі Ігнат, расказаў мне, што, мабыць, прычынай нашай хваробы з'яўляецца начны стораж мілейчыцкай «мясной», які кожную ноч на сваю руку забаўляўся каўбасовай аправізацыяй сваёй сям'і і знаёмых.

— План аднак жа трэба было выконваць, — расказваў сябра па няшчасцю. — Але чым? Найтаннейшая ў Мілейчыцах вада, бо нічога не каштуе. Ну, то давай ліць ваду і ўсё ў парадку — каза цэла і воўк сыты.

Гэтым разам не пераканаўся я. Стораж — сторажам, а каўбаса — каўбасою. Раю тады праўленню ГС у Мілейчыцах, якому непасрэдна падлягае мілейчыцкая «мясная», няхай так паціснe яе кіраўніцтва, каб пацякла з яго вада, як з гэтай каўбасы, якую яны прадаюць па 50 зл за кілаграм.

Тымчасам старшыні гэзсу прыемнага апетыту жадае —

**Якуб Асака**




### АДВАЖНЫ ПАЛЯЎНІЧЫ

Прыйшоў дамоў паляўнічы і расказвае суседу:

— Іду праз даліну і бачу — велізарны звер. Падыйшоў я да яго паціху і адрубаў яму кіпцюры.

Сусед кажа:

— Вось і відаць, што з цябе кепскі паляўнічы. Трэба спярша звяру адрубаць голаў, каб не з'еў.

Паляўнічы на гэта:

— Дык у гэтага звяра галава ўжо была адрублена.

**Іван Бесялоўскі**
Пасынкі

### ВЫЛІЧЫЎ

Настаўнік да вучня:

— Колькі было войнаў у Англіі?

Вучань: — Шэсць.

Настаўнік: — Вылічы іх.

Вучань: — Першая, другая, трэцяя, чацвёртая, пятая і шостая.

**Анна Шыманюк**
Беласток

### ЯК ПАЗНАЦЬ

— Па возеры плывае лебедзь. Як пазнаць, самец гэта, ці саміца?

— Вельмі проста. Кідаем у ваду кавалак булкі і назіраем. Калі лебедзь з'еў — гэта значыць што ён самец, а калі з'ела — саміца.

**С. СЭБЭРЫН**
Мастаўляны

### У СУДЗЕ

Суддзя: — Вы, грамадзянін, справу выйгралі, можаце ісці дахаты, да жонкі.

Абвінавачаны: — Судзіце лепш мяне, грамадзянін суддзя, толькі да жонкі на адсылайце.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### УПЭЎНЕНА

— Грамадзяначка, што вы збіраеце. Гэта ж такія грыбы, ад якіх можна атруціцца?

— Будзьце спакойны, гэта ж не сабе, а на рынак.

**Вячаслаў Савіцкі**
Гарадок

 